Туалет на... плошчы ст.2

Засталіся тут сцежкі песняра ст.3

грамадска-палітычнае выданне

# Спадарожнік

Кошт свабодны

№ 13 (67) Пятніца, 29 сакавіка 2002 г. Выдаецца з 15 снежня 2000 г.

# Хоць у звон звані...

**Як нам паведамілі, на мінулым тыдні ў школах Ганцавічаў і Ганцавіцкага раёна знікла тэлефонная сувязь. Знікла не ў выніку аварыі, не ў выніку дыверсіі – проста раённы вузел электрасувязі, у чарговы раз не дачакаўшыся аплаты, адключыў тэлефоны ў навучальных установах.**

Праўда, хутка апомніліся і ўжо ў панядзелак па загадзе начальніка РВЭС Мікалая Рылкі падключылі па аднаму тэлефону ў кожнай школе. Дзякуй богу, пакінулі хаця б адзіную крыніцу сувязі са знешнім светам, інакш у выпадку якога-небудзь здарэння са школы маглі б пазваніць толькі з электрычны званок, якім звоняць на ўрок і з урока. Дарэчы, і ў гэты званок пазваніць было б дастаткова праблематычна - запазычанасць РАА за электраэнергію на канец сакавіка перавысіла 120 мільёнаў рублёў.

Са словаў аднаго з настаўнікаў СШ №2, такое становішча нельга лічыць нармальным. Напрыклад, калі дырэктар па нейкіх справах адлучыцца, выклікаць тую ж хуткую дапамогу альбо пажарную будзе праблематычна. Можна, канешне, адшукаць тэлефон у суседніх будынках, але ж, зразумела, што ў падобных выпадках дарагая кожная хвіліна.

Сітуацыю ведаюць і ў Міністэрстве адукацыі, але замест таго каб дапамагчы РАА выйсць (яны ж знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні), у рэгіёны, у тым ліку, напэўна, і ў наш раён, зверху прыйшла рэкамендацыя, згодна якой школам і дзіцячым садкам цяпер самім прыйдзецца зарабляць грошы, бо ў гадавым бюджэце раёна сродкаў на адукацыю хранічна не хапае.

Некаторыя школы, напрыклад, СШ № 3 ўжо загадзя прадбачылі такую сітуацыю і папрасілі супрацоўнікаў РУЭС устанавіць у школах тэлефоны-аўтаматы, каб была магчымасць званіць хаця б па тэлефоннай картцы. Пасля гэтага ў настаўнікаў і адміністрацыі СШ №3 з'явілася хаця б магчымасць бясплатнага выкліку служб 01, 02, 03.

У другой жа школе тым, хто карыстаецца тэлефонам, наогул прапанавалі скінуцца за карыстанне апаратам. Калі і надалей следаваць такой логіцы, то настаўнікам у бліжэйшы час прапануюць плаціць грошы за арэнду класаў. Выкарыстоўваюць жа яны гэтая класы!

***

Зразумела, што бюджэтных сродкаў не хапае нават на адукацыю. Улады ж, відаць, не ведаюць, як знасці выйсце, але, як звычайна, робяць выгляд, што нічога страшнага не адбываецца.

Пятро ГУЗАЕЎСКІ




•Тэлефон у школе зараз не сродак сувязі, а раскоша

## Навіны

### Нарушителей стало меньше

За три месяца 2002 г. сотрудниками ЛПМ станции Ганцевичи в поездах выявлено 72 нарушения правопорядка. К административной ответственности привлечены 131 человек, из них за распитие спиртных напитков и нахождение в пьяном виде – 76 человек, за мелкие хищения только в марте было задержано 3 человека. Жители нашего района также часто фигурируют в списке нарушителей. Вот несколько примеров. 13 марта житель г. Ганцевичи П. Занько похитил зеркало из вагона поезда сообщением "Барановичи-Удрицк", к административной ответственности привлечены жители д.Чудин Н. Захарченя и В. Сергиеня, которые 20 марта в пьяном виде решили поспать на скамейках в зале ожидания железнодорожного вокзала. За курение в тамбуре дизель-поезда был оштрафован житель д. Мальковичи И. Хилютич.

Николай САМОЙЛИК, начальник линейного поста милиции ж/д станции Ганцевичи

### Сабраліся мацнейшыя

26 сакавіка ў Ганцавічах адбылося ўрачыстае адкрыццё абласных спаборніцтваў дзяцей з абмежаванымі псіхафізічнымі асаблівасцямі. У спаборніцтвах прымаюць удзел выхаванцы пяці школ-інтэрнатаў Брэстчыны – Югалінскай з Івацэвіцкага раёна, Антопальскай – з Драгічынскага, Люцінскай – з Брэсцкага, Малатковіцкай – з Пінскага раёнаў і Ганцавіцкай дапаможнай школы-інтэрната. На працягу пяці дзён рабяты паспрабуюць свае сілы ў лёгкай атлетыцы, настольным тэнісе, валейболе, міні-футболе, кіданні мячыка і іншых відах спорту.

Першы дзень спаборніцтваў выявіў мацнейшых. Імі аказаліся выхаванцы Ганцавіцкай школы-інтэрната. Яны атрымалі ўпэўненыя перамогі ў спаборніцтвах па валейболе і эстафеце 4х100. Дарэчы, трэба сказаць, што выхаванцы гэтай школы былі неаднаразовымі ўдзельнікамі Пар-Алімпійскіх гульняў, якія праводзіліся ў апошнія гады ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Валерый БОГДАН, дырэктар Ганцавіцкай дапаможнай школы-інтэрната

### Дом падпаліў... унучак

Жыхар г. Ганцавічы Ч., што жыве па вул. Маладзёжнай,28 і думаць не думаў, што з ім здарыцца бяда, калі запрасіў да сябе ў госці любімага ўнучка Аляксандра, вучня 4-га класа адной з Баранавіцкіх школ. Хлопчык правёў на славу свае веснавыя канікулы ў дзядулі і... падпаліў гарышча дзедавага жытла. У выніку дзіцячага свавольства з агнём поўнасцю згарэла гарышча. Нанесены ўрон склаў па прыблізных падліках больш за 600 тыс. руб. Ён мог быць і большым, калі б аператыўна не спрацавала служба МНС.

Сцяпан ЗЫЛЕВІЧ

# «Калі прыйдзе цяпло ў нашы кватэры?»

Цярпенню жыхароў дома №40, што па вуліцы Матросава, прыйшоў канец. Людзі, змучаныя пастаянным холадам у ацяпляльны перыяд, вырашылі дабівацца справядлівасці і чалавечых умоў жыццяў сваім доме. І калі раней пісалі скаргі, хадзілі па розных інстанцыях толькі адзін ці два прадстаўнікі гэтага дома, то ў мінулы чацвер 21 сакавіка каля 30 чалавек выйшлі ў двор адстойваць свае правы. Толькі лічаныя людзі на прынялі ў гэтым сходзе ўдзел і, хаваючыся, пазіралі праз вокны.

Сход быў арганізаваны Уладзімірам Дывыдчыкам, загадчыкам аддзела райвыканкама па сацыяльна-эканамічным развіцці горада. Але ініцыятыва чыноўніка не была добраахвотнай. "Пайсці ў народ" прыйшлося па пісьме, якое прыйшло ў Ганцавіцкі райвыканкам з Нацыянальнай дзяржаўнай радыёкампаніі Рэспублікі Беларусь за подпісам дырэктара дырэкцыі інфармацыйнага і грамадска-палітычнага вяшчання Беларускага радыё В. Радуцкага, дацíраванае 18.03.2002г., з патрабаваннем разабрацца і адказаць па сутнасці справы. Менавіта на Радыёфакт жыльцы адправілі калектыўную скаргу, бо на мясцовым ўзроўні праўды дабіцца не ўдалося.

Усё "разбіральніцтва" зводзілася да абяцанкаў паправіць становішча, і адзіны довад, якім У. Дывыдчык спрабаваў суцішыць справядлівае негадаванне людзей, гучала проста смешна. Маўляў, нехта перакрыў вентылі і два тыдні цяпло не паступала... Але ж "сабачы холад", як выказаўся адзін з жыльцоў, стаяў на працягу амаль усяго ацяпляльнага перыяду. Калі рэгулярна аплочвалі паслугі, дык і карыстацца імі павінны згодна існуючым нормам.

Прадстаўнік уладаў запэўніў, што праз два-тры дні сітуацыя з цяплом нармалізуецца, а за сакавік будзе зроблены пераразлік.

Але і праз тыдзень доўгачаканага цяпла жыльцы гэтых дамоў так і не дачакаліся, хаця ацяпляльныя радыятары ў кватэрах ужо не такія ледзяныя, як раней. А пераразлік пакуль зрабілі толькі тым, хто не паспеў часова разлічыцца за камунальныя паслугі.

Пятро ГУЗАЕЎСКІ

## Синоптики сообщают:




| | 30 марта | | 31 марта | | 1 апреля | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | ночь | день | ночь | день | ночь | день |
| t,°C | +2 | +9 | -1 | +12 | +1 | +15 |
| Q, * | 3 | 7 | 5 | 1 | -1 | -2 |
| v, м/с | 3 | 2 | 1 | 2 | 0 | 1 |

| | 2 апреля | | 3 апреля | | 4 апреля | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | ночь | день | ночь | день | ночь | день |
| t,°C | +4 | +15 | +7 | +16 | +8 | +13 |
| Q, * | -3 | -4 | -3 | -3 | -2 | -4 |
| v, м/с | 2 | 3 | 3 | 4 | 3 | 5 |

* тенденция давления - это разница между значениями давления в текущий срок и сутки назад, в мм рт.ст.

*Хацелі як лепш...*

# Туалет на... плошчы

**Як вялікую перамогу ў ажыўленні паўсоннага жыцця глыбокай правінцыі, якой па сутнасці Ганцавічы і з'яўляюцца, спрабавалі прыпаднесці кіраўнікі райпо (раённага спажывецкага таварыства) і мясцовая "вертыкаль" адкрыццё на гарадскім рынку міні-гандлёвага цэнтра "Меркурый".**

Дарэчы, гэтая , так бы мовіць, навабудоўля-даўгабуд расцягнулася амаль на дзесяць гадоў. З вялікімі цяжкасцямі, але задуманае даўным-даўно нарэшце ўвасобілася ў рэальнасць. Цэнтр адкрылі.

Пэўная і не самая лепшая катэгорыя гараджан сустрэла гэтую вестку з несхаваным задавальненнем. З адкрыццём гандлёвага цэнтра для іх перастала існаваць праблема – дзе выпіць пасля 23 гадзін? Кафэ міні-цэнтра "Настальгія" (і назву якую прыдумалі! Настальгія па чым? Па запойных часах?) прапануе гэтую паслугу з 9 ранку да 4 гадзін світанку! Піце, хлопцы, цэлыя суткі!

Да слова будзе заўважана, што раённыя ўлады забараняюць праводзіць дыскатэкі ў ГДК, кінатэатры, ПМК-7 пасля 23 гадзін, маўляў, насваволіць моладзь. Такое тлумачэнне не вытрымлівае аніякай крытыкі, бо з'яўляецца сапраўдным парадоксам: у "Настальгіі", аказваецца, можна піць-гуляць цэлую ноч, а вось у залах, дзе праводзяцца дыскатэкі і адсутнічае нават вадаправодная вада, знаходзіцца пасля 23 гадзін забаронена.

Моладзь, якую насільна выштурхваюць на вуліцу з танцпляцовак, вымушана шукаць працягу свайго адпачынку і накіроўваецца... у начное кафэ і яму падобныя .

І зноў не самая вялікая тайна: чалавек, які выпʼе, мае пільную патрэбу тое, што спажыў, спаражніць. І ён спаражняе... прама на ганку "Настальгіі" або паблізу яе. Тут жа выкідвае недакуркі, пустыя пачкі з-пад цыгарэт, паперкі, скарыстаныя па прамым прызначэнні. Прыбіральшчыцы гарадскога рынку, прыватныя прадпрымальнікі, якія кожны ранак займаюць свае месцы, абураюцца. Ды каму да іх слоў прыслухацца?

Між іншым элементарныя санітарныя нормы прадугледжваюць пры адкрыцці любой пітной установы наяўнасць у ёй санвузла (удакладнім, туалета) агульнага карыстання. У "Настальгіі" яго няма. Праўда, справядлівасці дзеля заўважым, што туалет у кафэ ўсё ж ёсць, службовы. І карыстацца ім, зразумела, могуць толькі самі работнікі гэтай установы. Аднак размешчаны ён не вельмі ўдала: побач са складам і халадзільнікам, дзе захоўваюцца прадукты. Такое суседства супярэчыць усялякім санітарным нормам.

А дзе ж спраўляць патрэбу наведвальнікам "Настальгіі", перапоўненым ежай і пітвом? Аб тым ніхто не падумаў. Таму найбольш адважныя, дакладней кажучы, нахабныя, выйсце знайшлі самі: гадзяць каля сцен, на прыступках і ледзь не каля дзвярэй начнога кафэ.

З п'янага не спытаеш. Нецвярозы чалавек — неразумны чалавек. Але, зноў жа, вінаваціць адны толькі прыхільнікаў Бахуса нельга. Вінаваціць трэба і тых, хто адкрываў пітную ўстанову без вельмі неабходнага тут санвузла і ў першую чаргу цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, які закрыў вочы на тую не істотную на яго погляд "дробязь".

• Помнік мясцовой культуры XXI стагоддзя

Сцяпан ВАСІЛЬЕЎ

*Запрет на рыбную ловлю*

# Рыболовам на заметку

**Министерство природных ресурсов приняло постановление о запрещении всякого рыболовства на территории Беларуси с 25 марта по 23 мая 2002 года.**

Однако рыболовы-любители не должны огорчаться: для них в определённых местах даже в период запрета разрешён лов рыбы с берега одной удочкой с одним крючком, в светлое время суток. Такими местами в Ганцевичском районе являются участок реки Лань от шлюза д. Локтыши до устья реки Нача, от шлюза д. Будча до шлюза д. Чудин, озера Красное,Пакемеровские, а также карьеры в г. Ганцевичи.

Однако, невзирая на принятые природоохранные меры, некоторые любители лёгкой наживы спешат на водохранилища, озёра и реки. Неоднократно нарушали правила рыболовства жители деревни Локтыши Виктор Ленковец, Иосиф Ленковец, Иван Зуйкевич, Михаил Мышковец, а также жители райцентра Анатолий Солодовников, Дмитрий Яшманский, Сергей Заяц и другие. Все они подвергнуты административному наказанию.

Но самое неприятное то, что нарушителями становятся те, кто должен оберегать флору и фауну края. Именно к таким относится егерь Ляховичского районного общества охотников и рыболовов Игорь Мешкевич. 16 марта он был задержан работниками рыбинспекции на охоте...с патронами, снаряжёнными пулями и картечью. Не слона ли собирался подстрелить ухарь-егерь?

Василий ИЛЬЧЕНКО,
участковый инспектор
Ганцевичской межрайонной
инспекции охраны рыбных
ресурсов и охотничьих видов
животных

*Служба 01 предупреждает*

# Горит трава, горят дома

**Каждый год с приходом весны и установлением сухой солнечной погоды на территории района начинается выжигание сухой травы.**

Как ни борются с этим негативным явлением пожарные, жители траву выжигают, что нередко приводит к возникновению пожаров, в которых уничтожаются хозяйственные и жилые постройки.

Этот год не стал исключением — отдельные граждане и хозяйственники по-прежнему игнорируют противопожарные правила и продолжают с завидной настойчивостью выжигание сухой травы на полях и в непосредственной близости от жилья. Только в период с 12 по 20 марта в районе было выявлено 8 очагов горения сухой травы. Наибольшую площадь огонь охватил на землях колхоза "Россия" в урочище Бобовище — свыше 20 гектаров.

А вот в деревне Люсино (колхоз имени Калинина) в результате выжигания сухой травы 19 марта этого года возникла реальная угроза складам минеральных удобрений и горюче-смазочных материалов. Однако слаженными действиями бойцов пожаро-спасательного поста д. Люсино пожар удалось предотвратить.

Приведённые выше примеры убедительно говорят о том, что весенние палы не такое уж безобидное явление, каким может показаться на первый взгляд. Об этом же свидетельствует и статистика прошлых лет. Например, в 2001 году подразделения Ганцевичского районного отдела по чрезвычайным ситуациям более 15 раз выезжали на тушение сухой травы, в результате чего было ликвидировано горение на общей площади 4,03 гектара. Однако, несмотря на слаженные действия пожарных, избежать нанесения материального ущерба домовладениям граждан не удалось. Так, при выжигании сухой травы на полях колхоза "Светлый путь" 30 марта 2001 года сгорел хутор. Материальный ущерб, нанесённый огнём, составил более 4 миллионов рублей. А в деревне Круглица по той же причине чуть было не стали погорельцами многие сельчане. Огонь уже вплотную подбирался к жилым строениям и только высокий профессионализм подоспевших на помощь пожарников помог предотвратить страшную трагедию.

Василий ПЕТРОВ



## «Есть контакт!»

**Если у вас имеется "горячая" информация, интересные новости, вопросы и предложения, если вы хотите высказать свои претензии и дать полезный совет, звоните нам.**

**Во вторник, 2 апреля, с 16.00 до 18.00 на ваши звонки отвечает Петр ГУЗАЕВСКИЙ**



**Наш контактный телефон: 2-14-50**

Газета «Спадарожнік» приглашает к сотрудничеству внештатных корреспондентов

Телефон для справок: **2-14-50**



## Горожане отвечают

**Как вы относитесь к развитию предпринимательства и малого бизнеса?**



**Мария Николаевна Казалькевич, пенсионерка:**

- Я предпринимательство понимаю так, что человек должен что-то производить своим трудом. А тех, кто покупает где-то и перепродаёт, раньше называли спекулянтами, хотя я сама чаще продукты на рынке покупаю.



**Эдуард Данильчик, работает у индивидуального предпринимателя:**

- Конечно, положительно. У предпринимателей широкий выбор товара и дешевле, чем в государственных магазинах.



**Аркадий Антонович Мелеховец, пенсионер:**

- Раньше предпринимателей Лукашенко жульём называл, а теперь поддерживает, и я поддерживаю. Они государству приносят пользу, налоги платят.



**Ольга Николаевна Сдобникова, состоит на учёте в районном центре занятости:**

- Если не будет развиваться малый бизнес, мы со своей белорусской колбасой совсем умрём...



**Иван Михайлович Садовой, машинист башенного крана ПМК-14:**

- Я поддерживаю лишь потому, что товары у коммерсантов дешевле, а это важно при наших-то зарплатах. Хотя качество товаров, которые они покупают в Москве у китайцев, бывает очень плохое.



**Александр Трофимович Шут, сторож СКП "Парижская коммуна":**

- Думаю, хорошее это дело, ведь люди себе сами деньги зарабатывают и другим работу дают. И в деревню товары привозят...



**Александр Швайко, работает в Москве:**

- Чем больше будет предпринимателей, тем лучше. При высокой конкуренции снизятся цены, а это будет выгодно покупателю. Ведь в основном все тратят деньги на рынках и в ларьках.

Беседовал
Петр ГУЗАЕВСКИЙ
Фото автора

# Шпакі прыляцелі – вясна прыйшла!

**Прыйшла вясна! Абуджаецца прырода і ўсё жывое навокал. З далёкіх краёў прыляцелі першыя веснікі вясны – шпакі.**

Іх прылёту чакалі і вучні 3-яй сярэдняй школы г.Ганцавічы. Пад кіраўніцтвам настаўніка працоўнага навучання Сяргея Міхайлавіча Зялёнкі змайстравалі і развесілі ў гарадскім парку новыя “кватэры” для птушак. Хлопчыкі задаволены сваей працай, а настаўнік ганарыцца сваімі падапечнымі.

Сапраўды, карысная праца і любоў да прыроды робіць нас дабрэйшымі. Нездарма кажуць: “Дабрыня выратуе свет.”

І яна сапраўды ратуе, бо ўся наша шматвекавая гісторыя неадназначна сведчыць: хто да прыроды адносіцца з любоўю, той і для яе жаданы госць.

Пётр ГУЗАЕЎСКІ

Фота Пятра ГУЗАЕЎСКАГА

• Відавочная радасць школьнікаў Алёшы Зайца, Сашы Труцько, Алёшы Заранкова, Алёшы Сідаровіча, Сашы Канановіча, Алега Хілюціча, Дзімы Курыліка, Віктара Плоткі з 7 "Б" класа СШ № 3

# Засталіся тут сцежкі песняра

**Сёлетні год адметны. І перш за ўсё тым, што мы будзем адзначаць 120-годдзе слаўных песняроў зямлі беларускай Янкі Купалы і Якуба Коласа, чыя творчасць увайшла ў культурную скарбніцу нашага народа.**

Не хачу пакрыўдзіць прыхільнікаў Янкі Купалы, але нам, жыхарам Ганцаўшчыны, імя Коласа бліжэй. Мо таму, што ў далёкім 1902 годзе пасля заканчэння Нясвіжскай семінарыі ён пэўны час працаваў на нашай зямлі — настаўнікам у Люсіне. Дваццацігадовы Кастусь Міцкевіч ужо тут адчуў асалоду творчасці. Ён піша вершы, кароценькія апавяданні, прыглядаецца да людзей, да жыцця.

Аднак ягоны прыезд у Люсіна азмрочыўся. Па дарозе ў вёску Кастусь Міцкевіч згубіў сшытак са сваімі вершамі. Вось як ён сам успамінае пра гэты выпадак.

“Стаяў я каля акна ў вагоне, гартаў сшытак з семінарскімі вершамі. Збіралася навальніца, секанулі па шыбах кроплі. Хачу падняць акно — яно не паддаецца, недзе заела. Я ўзяўся за рамяні абедзвюма рукамі і зусім забыўся, што трымаю сшытак. А тут віхор вырваў з рук той сшытак і пагнаў невядома куды. Страта сама па сабе не вельмі засмуціла мяне. Спадзяваўся на памяць: будзе час, засяду і аднаўлю патрохі. Але ў грудзі падкацілa трывога: ці не чакае такі лёс усе маё пісанне наогул.”

Не, не такі! Творы пісьменніка напісаны з такой любоўю да чалавека, з такім глыбокім разуменнем народнага жыцця, з такім замілаваннем да роднай зямлі, што ім суджаны доўгі век.

• Якуб Колас

У Люсіне Якуб Колас жыў пры школе. Школу тады наведвала 35 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. Адну зіму разам з Коласам у Люсіне жыла яго сястра Юзэфа. Працуючы ў Люсіне, Якуб Колас робіць этнаграфічныя запісы, збірае вусную народную творчасць, знаёміцца з нелегальнай літаратурай, якую яму даваў адзін яўрэй, ста独ляр па прафесіі, ягоны зямляк са Стаўбцоў.

Бліжэйшымі суседзямі Якуба Коласа ў Люсіне была сям’я аб’ездчыка, у якой выхоўвалася дачка-прыгажуня Ядвіся. Паміж імі нарадзілася першае каханне, якое дало падставы будучаму песняру для стварэння многіх цудоўных вершаў.

На мінулым тыдні дні Я.Коласа і Я. Купалы прайшлі у сярэдняй школе №3 г. Ганцавічы. Вучні дзевятых класаў падрыхтавалі літаратурна-музычную кампазіцыю “Ад роднай зямлі”, прысвечаную творчасці Я. Коласа. Сцэну гутаркі маладога настаўніка Лабановіча з бабкай Мар’яй з трылогіі “На ростанях” увасобілі А. Задзяркоўскі і Н. Драгакупец — вучні 11-х класаў.

“З песні пачынаецца Купала”, — так называлася літаратурна-музычная кампазіцыя, якую падрыхтавалі вучні восьмых класаў. А вучні 6 і 7 класаў падрыхтавалі свята паэзіі “Мой край, мой рай бульбяна-жытні”.

У заключэнне хочацца зазначыць: коласаўскае слова і сёння гучыць на поўную сілу, дапамагае жыць, узбагачае вопытам, хвалюе сваёй глыбінёй і мастацкай дасканаласцю.

Леанід ДАРАШЭНКА, намеснік дырэктара сярэдняй школы № 3 г. Ганцавічы

# Сіламі памераліся шашысты

**У пятніцу, 22-га сакавіка, у будынку ГДК адбылося агульнакаманднае першынства раёна на прызы клуба «Цуда - шашкі» сярод школьнікаў. 8 каманд прынялі удзел у турніры аматараў шашак, у кожную з іх уваходзіла па 3 хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Удзел у спаборніцтвах прынялі 50 чалавек.**

Арганізатарам першынства выступілі раённы аддзел адукацыі і спорткамітэт райвыканкама. Амаль да вечара за шашачнымі дошкамі вялася ўпартая барацьба.

У выніку ў агульна-камандным заліку перамагла каманда СШ №3. На другім месцы – школьнікі горада Ганцавічы з СШ №2, а на трэцім – юныя шашысты са школы вёскі Ганцавічы. У асабістым заліку сярод хлопчыкаў лепшымі былі Андрэй Вайціховіч (СШ №2) – першае месца, Арцём Баўтрукевіч - другое месца, Сяргей Гулевіч (СШ в. Ганцавічы) – трэцяе месца. Сярод дзяўчынак 1-е месца заняла Ірына Салавей з вёскі Любашава, 2-е месца - Юля Рытвінская (СШ №2), 3-е - Святлана Сухаверхая (СШ №3).

Як адзначыў галоўны суддзя Мікалай Аскерка, значную падтрымку аказаў спонсар турніру кандыдат у майстры спорту па шашках, прадпрымальнік Мікалай Рылка, які пераможцам і прызёрам прадаставіў падарункі. Таксама Мікалай Рылка правеў сеанс адначасовай гульні.

Толькі адзін удзельнік – Андрэй Вайціховіч – падцвердзіў сваё званне і згуляў унічыю з кандыдатам у майстры спорту па шашках. За гэта ён дадаткова ўзнагароджаны грашовай прэміяй спонсара.

Не засталіся без узнагарод і астатнія ўдзельнікі спаборніцтва. Акрамя таго, ад РАА яны атрымалі кнігу “Памяць. Ганцавіцкі раён”, якую напісаў супрацоўнік газеты “Спадарожнік “.

Мікалай САЙКА

# Новости Республики

## Налог на автомобили

**На польских границах введен новый акцизный налог на автомобили, бывшие в употреблении. Суммы налога в некоторых случаях возросли в 8 раз.**

Об этом сообщила пресс-служба Министерства иностранных дел Беларуси со ссылкой на информацию белорусского генерального консульства в Гданьске.

Ранее акцизный налог составлял 6,4 процента от стоимости автомобилей с объемом двигателя до 2.000 куб. см и 17,6 процента — для автомобилей с объемом двигателя более 2.000 куб. см.

## Тракторы – на семена

**До конца нынешнего года Беларусь готова поставить в Молдову 400 тракторов.**

Об этом заявил в Кишиневе 21 марта посол Беларуси в этой стране Василий Сакович.

Стоимость каждого белорусского трактора составляет 9,3 тыс. долларов США. Взамен Беларусь получит семенной материал.

## Доллар подорожал

**На прошедшей неделе курс доллара США к белорусскому рублю вырос на всех сегментах валютного рынка.**

Наиболее заметно — на 1,2 процента — увеличился курс доллара на внутреннем внебиржевом безналичном рынке (с 1.690—1.695 до 1.710—1.715 рублей).

На «черном» наличном рынке доллар подорожал на 0,9 процента (с 1.710—1.720 до 1.730—1.735 рублей при покупке, с 1.730 до 1.745 рублей при продаже).

В обменных пунктах коммерческих банков курс доллара вырос на 0,6 процента (с 1.690—1.710 до 1.700—1.720 рублей при покупке, с 1.715—1.725 до 1.725—1.735 рублей при продаже).

## Пополняется бюджет

**По данным Министерства финансов Беларуси, в январе — феврале в бюджет государства поступило 1 трлн. 27,4 млрд. рублей доходов.**

53,9 процента пришлось на долю налога на добавленную стоимость, налога на прибыль, акцизов и подоходного налога. При этом более четверти поступлений в бюджет обеспечено за счет налога на добавленную стоимость.

По данным Министерства по налогам и сборам, на 1 марта 2002 года задолженность по платежам в бюджет составляла 189,6 млрд. рублей. В том числе по налогу на добавленную стоимость — 56,4 млрд. рублей, по платежам в бюджет с выручки от реализации товаров, работ, услуг — 54 млрд. рублей, единому налогу для производителей сельскохозяйственной продукции — 19,6 млрд. рублей, акцизам — 16,7 млрд. рублей, налогу на прибыль — 11,8 млрд. рублей. Задолженность по платежам в бюджет возросла по сравнению с началом года на 41,3 процента.

В то же время объем отсроченных сумм задолженности на 1 марта составил 29,4 млрд. рублей и снизился по сравнению с 1 января 2002 года на 13,9 процента.

Отдел информации «С»

# Климов на свободе

**25 марта, в начале девятого утра, депутат Верховного Совета Беларуси 13-го созыва, известный предприниматель Андрей Климов вышел на свободу из минской колонии строгого режима УЖ-15/1.**

Андрей Климов был арестован 11 февраля 1998 года. 17 марта 2000 года суд приговорил его к шести годам лишения свободы за хищение в особо крупных размерах и должностной подлог. Однако белорусские и международные правозащитники оценили этот приговор как политически мотивированный, поскольку депутат Климов был одним из наиболее активных деятелей белорусской оппозиции. По их мнению, в ходе суда не был доказан состав преступления.

Решение об изменении Климову вида наказания было принято 22 марта на выездном заседании коллегии суда Центрального района Минска. Судебная коллегия заменила лишение свободы на исправительные работы по месту жительства с удержанием в доход государства части зарплаты. До завершения определенного судом срока наказания А.Климову остается 1 год 10 месяцев и 19 дней.

Отдел информации «С»

## Правила подачи частных объявлений в газету «Спадарожнік»

Частные объявления в газету «Спадарожнік» принимаются на купонах, вырезанных из газеты «Спадарожнік».

Один купон должен содержать одно объявление в одну рубрику.

При заполнении каждая буква вносится в отдельную клеточку, между словами пропускается по одной клетке.

Неразборчиво заполненные купоны не рассматриваются и не возвращаются.

**Купоны принимаются по адресу:**
**225440 г.Ганцевичи, ул. Заслонова, 4.**

**Купон для частного бесплатного объявления**

РУБРИКИ: ПРОДАМ МЕНЯЮ КУПЛЮ УСЛУГИ ЗНАКОМСТВА РАЗНОЕ Дата выхода

Текст писать разборчиво, печатными буквами

**Сведения не для печати:**

Ф.И.О. ____________

АДРЕС: ____________

д. ______ кв. ______

ТЕЛЕФОН ____________ « » ____________ 2002 г.

**ДЕЙСТВИТЕЛЕН с 29.03.2002 г. по 12.04.2002 г.**

# Проза жизни



«Все, хватит, надоело, однажды заявила мне жена. – Посмотри на меня повнимательнее, ты ничего не замечаешь?»

Вообще-то, не в моем характере чуткое реагирование на все женские капризы и прихоти. Но то ли сказано это было как-то по- особенному, то ли у меня под старость сентиментальность проклюнулась, однако пришлось оторваться от телевизора и взглянуть на супругу. Признаться, ничего особенного я и не заметил. Передо мной стояла тридцатипятилетняя женщина с обычными глазами, обычными губами и в общем-то обычным, хоть и немного вздернутым носиком. То есть все было в том же количестве и на том же месте, что пятнадцать лет, в день нашей свадьбы. И поскольку на комплименты я и раньше мастаком не был, то примерно так ей и объявил.

Она не обиделась и даже не смутилась, а, только загадочно так улыбнувшись, заметила:

– Знаешь, милый, я решила всерьез заняться своим внешним видом. Вот продам домик, что остался в деревне после бабушки, и потрачу энную сумму на наведение красоты. Красота, милый, это страшная сила…

В том, что это действительно так, я убедился уже очень скоро. Не прошло и месяца, как мою благоверную словно подменили. Массажный кабинет, шейпинг, солярий, лечебные крема, фирменная косметика стали постоянными атрибутами ее жизни. Потраченных денег я не считал. Хочет женщина быть красивой – пусть будет! А деньги дело наживное, тем более что бабка, которая жене в наследство домик в деревне оставила не моя, а ее родственница была.

Жена хорошела не по дням, а по часам. Сначала мне даже приятно было. Ну кому, скажите, неприятно будет, когда на его жену все проходящие мужики оборачиваются. Правда, потом, когда эйфория прошла, стал ощущать некоторый дискомфорт. Уж больно пристально некоторые особи мужского пола стали на мою законную супружницу пялиться. И это еще не самое страшное. Я вдруг с ужасом заметил, что моя жена стала стремительно продвигаться по службе. То, чего другие добивались годами упорного труда, жена делала играючи за каких-то пару месяцев. Учитывая, что в начальниках у нее одни мужики, все это выглядело более чем странно. Смутные и противные подозрения, закрадывающиеся мне в душу, не давали покоя ни днем, ни ночью. Мне уже не милы были ни ее красота, ни стремительный карьерный рост. В сердцах я даже вспомнил недобрым словом бабушку и ее злополучный домик в деревне. Назревал принципиальный разговор.

И он не заставил себя ждать. Сразу после того, как меня вызвал к себе начальник и, загадочно посмотрев мне в глаза, торжественно объявил о моем повышении по службе. В другой раз я приписал бы это исключительно собственным способностям, но когда шеф в конце беседы дружески похлопал меня по плечу и безапелляционно заявил, что всем этим я обязан своей половине, я понял: настала пора расставить в наших с женой отношениях все точки над i.

Как мне не хотелось затевать этот разговор, он все же состоялся. Во время моего гневного монолога жена сначала улыбалась, потом возмущалась, а потом как засмеется…

– Милый, в каком веке и в какой стране ты живешь? Ты что же думаешь, все эти твои и мои карьерные метаморфозы стали, как бы это поделикатнее выразиться, следствием изменения моего имиджа? Ах ты, мой глупый мышонок. Разве мужики сегодня еще способны ценить женскую красоту? Лично я на этот счет уже давно не обольщаюсь, да и тебе не советую. Увы, у них сегодня совсем другое на уме.

И клюют они теперь не столько на женские прелести, сколько на твердую валюту, желательно американскую. От их клева у меня уже половина бабкиного наследства испарилась. Такая вот она, суровая проза жизни.

Степан ЗЫЛЕВИЧ

## Прогноз для знаков Зодиака 1.04.2002 г. - 7.04.2002 г.

**Овен.** Первую половину недели лучше посвятить реализации Ваших планов и замыслов. Для того чтобы задуманное осуществилось, необходимо конкретизировать стоящие перед Вами задачи, и успех обеспечен.

**Телец.** Планы и замыслы, которые Вы сохраните в тайне от окружающих, быстро реализуются и принесут Вам удачу. Желательно не увлекаться большими шумными компаниями, т.к. именно там Вас может подстерегать обман и разочарование.

**Близнецы.** Неделя благоприятна для новых дел, поиска деловых партнеров и единомышленников. Влюбленность не всегда способствует сосредоточенности в работе. Займитесь благоустройством жилища, обновление подарит Вам легкость и воодушевление.

**Рак.** Этой неделе суждено быть достаточно напряженной, но плодотворной. Успех в делах будет проявляться медленно, но основательно. Благоприятное время для улучшения отношений с начальством или поступления на новую работу.

**Лев.** Вам необходимо обрести новых единомышленников, которые могли бы поддержать Ваши идеи. У Вас творческий подъем, даже чьи-то нападки в Ваш адрес не смогут препятствовать Вашему успеху. Обратите внимание на новую информацию, она откроет для Вас новые возможности.

**Дева.** На этой неделе многое зависит от Вашего внутреннего спокойствия и сосредоточенности. Выбирайте объем работы, соразмерный Вашим силам. Отодвигайте тревожные мысли, звезды не оставят Вас без покровительства.

**Весы.** На этой неделе проявятся Ваши разносторонние таланты, Вам одинаково хорошо будут удаваться как бытовые, так и профессиональные дела. Постарайтесь не пренебрегать некоторыми условностями и проявите решительность в преодолении трудностей.

**Скорпион.** Неделя насыщена впечатлениями и полна событиями. Постарайтесь использовать свою конфликтность для резких, но своевременных и необходимых в данное время действий.

**Стрелец.** Чтобы добиться так необходимого успеха, Вам нужно продумывать все: как Вы будете говорить и двигаться, какой у Вас имидж. А вот с рискованными планами и действиями желательно подождать, не опережайте время.

**Козерог.** Хорошие перспективы и возможности в профессиональной сфере. Есть шанс, что при помощи своих деловых качеств, серьезности и профессионализма Вы добьетесь повышения на службе.

**Водолей.** Раскройте свои многогранные таланты, примените свои знания на практике, проявите изобретательность и оригинальность. На Вас может навалиться много работы, но она будет интересной и увлекательной.

**Рыбы.** Прислушивайтесь к себе, постарайтесь избегать любых ситуаций, которые кажутся Вам сомнительными. На работе постарайтесь проявлять дипломатичность, эмоциональное равновесие.

# Кроссворд

**По горизонтали:**

7. Чей подарок помог Тесею победить Минотавра? 8. Сын Зевса – бог – покровитель искусств, целитель и прорицатель, изображавшийся прекрасным юношей с луком. 9. Лев Толстой по отношению к «Анне Карениной». 11. Гидротехническое сооружение с голландским названием. 12. Так можно назвать и эмигранта, и иммигранта. 15. Крупное морское млекопитающее; у самцов развит только левый бивень. 16. Килевая яхта международного класса. 17. То, с чем боролся луспекаевский Верещагин. 18. Прибрежные камни с женским именем. 20. В первую неделю этого месяца принято гадать и загадывать желания. 25. Остров на юго-восточном побережье Азии. Один из крупнейших поставщиков бытовой техники и ширпотреба в Россию. 27. 16 вершков. 28. В какой стране находится гора Джомолунгма? 29. Граница, при пересечении которой принято всячески веселиться и окатывать друг друга водой. 30. Город, согласно Библии, ставший первой жертвой применения акустического оружия.



**По вертикали:**

1. Вид графики, в котором изображением является оттиск рельефного рисунка. 2. Автор сказки о малахитовой шкатулке. 3.Мелкая разменная монета страны, мужчины которой считаются самыми галантными кавалерами. 4. Карликовое государство, расположенное к северу от страны, в лесах которой живет много-много диких обезьян. 5. Самый твердый минерал в природе. 6. Самая высокая горная вершина в Европе. 10. Мечта человека, переселившегося на ПМЖ в п.19. 13. Стиль, в котором Растрелли построил Зимний дворец. 14. Время суток, в которое персонаж одного из фильмов сериала «Следствие ведет знатоки» совершал квартирные кражи. 19. Свободная страна, в одном из городов которой до сих пор не отменен закон, запрещающий сушить на одной бельевой веревке мужское и женское белье. 21. Камергер двора Екатерины Великой, истории трагической любви которого посвящена опера Рыбникова «Юнона и Авось». 22. «Дамский коньяк», название которого происходит от названия португальского острова. 23. То, что больной сдает безвозмездно, а порой даже и приплачивает. 24. Гнилое море у берегов Крыма. 26. В этой европейской стране фамилия жены хотя и является производной от фамилии мужа, но никогда не совпадает с ней.

### Ответы на кроссворд, опубликованный в №12

**По горизонтали:** 5. Супруг. 6. Смерть. 9. Лира. 11. Неон. 12. Доверие. 13. Порог. 15. Приап. 16. Чулок. 18. Дилдо. 19. Шлейф. 23. Артем. 24. Гейша. 25. Йорки. 26. Желание. 28. Риск. 30. Гора. 31. Любовь. 32. Акушер.

**По вертикали:** 1. Аура. 2. Фрейд. 3. Белье. 4. Стан. 7. Жиголо. 8. Досада. 10. Петля. 14. Гигиена. 15. Плейбой. 16. Чадра. 17. Калым. 20. Еретик. 21. Страх. 22. Сакура. 26. Живот. 27. Евнух. 29. Ключ. 30. Грех.

# Частные объявления

**Куплю:**

❖«ЛУАЗ». тел. 2-14-50.

❖Прицеп "Зубрёнок" к легковому автомобилю. тел. 2-18-50, после 17.00.

**Услуги:**

❖ Музыкальное сопровождение свадеб и торжеств. Живая музыка, баян, по желанию услуги тамады. тел. 48-2-56, Гена.

**Меняю:**

2-комн. кв. на 3-комн. кв. с доплатой. тел. 2-19-69.

**Продам:**

❖ Мотоцикл "Минск" в хорошем состоянии. Цена договорная.Тел. 2-19-85 после 18.00.

❖Б/у запчасти к «Ауди-100». Тел. 2-26-58. Сергей.

❖«W-Пассат»,1986/1987. Состояние хорошее. Цена договорная. Тел. 2-22-95; после 19.00.

❖ Холодильник "Донбасс", гладильный пресс для одежды и белья. тел. 57-2-44

❖ Осеннюю свинью по цене 100 у.е. тел. 45-2-28 в д. Ганцевичи

❖ Дом, холодильник, трюмо. Рассмотрю любые варианты. тел. 2-15-37.

❖ «Мерседес-123», 82 г., 230 Е, г/у, ц/з, кор. фар, люк, АКПП, ст. защита двигателя, хор. сост. 8-23-40-71-14.

❖ "Авиа", 83 г. 8-23-46-60-41.

❖ "Форд-Скорпио", 89 г., темно-синий, 2,0 і. 8-23-45-32-90.

❖ «WV Гольф-2», 86 г., дизель, вишневый металлик, 1550 у.е. 8-23-44-70-21, 8-23-44-74-53.

❖«WV Пассат», 92 г.в., универс., 1,9, 3,3 у.е. тел. в Ганцевичах 2-10-06.

❖«WV-Сантана», 83 г.в., хор. сост., 1150 у.е. 8-23-40-94-79.

❖ «WV-Джетта", 87 г., 1,3, объем, 2-х дверная, газбензин, состояние хор., 1350 у.е. 8-23-41-46-60.

❖«WV-Пассат», 1,6 ТД, 87 г., универсал, в хор. сост., фаркоп, серый металлик. г. Ляховичи, 8-233-42214.

Індэкс: 63526 - інд. падпіска. Аб'ём: 1 ум. друк. аркуш.
Адрас рэдакцыі: 225320 г. Баранавічы, вул. Наканечнікава, 31-68
Карэспандэнцкі пункт у Ганцавічах: 225440 вул. Заслонава,4. Тэл. 2-14-50
Для лістоў: 225440 г.Ганцавічы-2 а/с 15

Галоўны рэдактар Уладзімір ЯНУКЕВІЧ
Рэдактар Алег ПАНАМАРОЎ
Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Адказнасць за дакладнасць друкуемых фактаў і падзей нясуць аўтары. Выказаныя ў дасланых матэрыялах думкі могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі газеты і не накладаюць на яе ніякіх абавязкаў. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Надрукавана ў РУВП "Баранавіцкая ўзбуйнёная друкарня", па адрасу: вул. Савецкая, 80
Падпісана ў друк 28 .03.2002 г. у 8.00. Зак. 1034 Тыраж 1000 экз. Перыядычнасць - адзін раз у тыдзень.

Заснавальнік і выдавец Янукевіч Уладзімір Аляксандравіч
Пасведчанне аб рэгістрацыі N 1416 ад 30 снежня 1999 г.